Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE 50 ¢

Address: BIELARUS 166-34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XVI. № 96-97 | Сакавік-Красавік 1965 | NEW YORK — TORONTO | March–April | Vol. XVI. № 96-97

## У СЭНАЦЕ ЗША

### МАЛІТВА

**Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа БАПЦарквы Васіля прачытаная 15 сакавіка сёлета ў Сэнаце ЗША з нагоды 47-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі**

**У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Усемагутны Божа, Ойча наш Нябесны! Мы, дзеці Твае, нізка сьхіляем галовы свае перад Табою й прыносім Табе нашую глыбокую падзяку за ўсе багаславенствы, якімі Ты так шчодра абдарыў Амэрыку й ейны народ.**

**Госпадзі, Спасе наш! Мы горача просім помачы Твае, каб дух мудрасьці, моцы й любові стала кіраваў любым Прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі; шчодра абдарыў Тваёю мудрасьцю й сілаю гэтую слаўную ўстанову — пашаны годны Сэнат Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, гэтую цьвярдыню супакою, справядлівасьці й свабоды. Міласэрны Божа! Мы просім Ласкі Твае для душаў усіх нашых гэрояўвояў, што палі на полі бою, а таксама для незьлічоных абаронцаў свабоды ўва ўсім сьвеце, іхны супакой ў Валодарстве вечнае Славы Твае ў Нябёсах.**

**Прадвечны Божа, Спасе наш! Мы горача молім Цябе сяньня: пашлі Тваю Боскую Ласку й апеку Беларускаму Народу, які 47 год таму абвесьціў Незалежнасьць свае Беларускае Народнае Рэспублікі, і які праз увесь гэты час ня перастаў змагацца за сваё вызваленьне зь няволі бязбожных тыранаў, зь цьвёрдаю надзеяй, што з Божай дапамогі ён будзе цешыцца тою воляю й свабодай, якія зьяўляюцца асноваю жыцьця ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі. Мы молімся сяньня, каб дабрадзействы свабоды, якія прыносіць дэмакратычны лад усяму вольнаму сьвету, паслужылі добрым прыкладам і заахвочаньнем Беларускаму Народу, бо надзея на вечную свабоду ня згасла сярод яго, але, як сьветач, гарыць у глыбінях ягоных сэрцаў зь непахіснаю навагаю стацца сябрам сям'і свабодных і Богу верных народаў усяго сьвету.**

**Мы хілім у пакоры галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь вераю молім Цябе: прымі гэтую Малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці-Беларусь!**

**Няхай цудоўнае імя Тваё, Божа й Спасе наш, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, і будзе багаслаўленае цяпер і навекі вечныя. Амін!**

Гэтай Малітвай Архіяпіскап Васіль адкрыў Сэсію Сэнату. Уладыку прадставіў Сэнату сам Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Губэрт Г. Гамфры ды зьвярнуўся із словамі, што Малітва будзе прачытаная з нагоды 47-ых угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Усе сэнатары выслухалі Малітву стоячы.

Малітву й Дэлегацыю ў Сэнат арганізавала, як і мінулымі гадамі, Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а пасярэднічаў ёй і палагоджваў усякія партэбныя фармальнасьці шчыры наш прыяцель сэнатар ад штату Нью Ёрк Якуб К. Джэвітс. Апрача Уладыкі Васіля, беларуская дэлегацыя складалася зь віцэ-старшыні Галоўнай Управы БАЗА Міхася Тулейкі, сябры Галоўнай Управы БАЗА Франціша Бартуля й беларускага навуковага працаўніка, што жыве ў Вашынгтоне, д-ра Барыса Кіта.

**Абавязкам кажнага Беларуса падтрымаць грашова собскую газэту „Беларуса"**

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ



Архіяпіскап БАПЦарквы Васіль і Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Губэрт Г. Гамфры пасьля малітвы ў Сэнаце

## У ВІЦЭ-ПРЭЗЫДЭНТА ЗША

Пасьля Малітвы сябры Дэлегацыі нейкі час прысутнічалі на сэсіі Сэнату, пасьля чаго іх запрасіў у свой службовы кабінэт Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Губэрт Г. Гамфры й меў зь ёй паўгадзінную прыязную гутарку, у якой выказаў шчырую сымпатыю да Беларускага Народу й ягоных нацыянальна-вызвольных імкненьняў. Да свайго выбару на віцэ-прэзыдэнта, ён працаваў сябрам Сэнацкай Камісіі Замежных дачыненьняў, а таму добра абзнаёмлены з праблемаю паняволеных народаў.

Пасьлей зьявіліся ў кабінэт Віцэ-Прэзыдэнта лідэр Дэмакратычнай Фракцыі Сэнату сэнатар із штату Монтана Майк Мансфілд, лідэр Рэспубліканскай Фракцыі — сэнатар із штату Ілліноўс Эвэрэст К. Дыркcэн і ўспомнены сэнатар Якуб К. Джэвітс. Зь імі таксама адбылася кароткая гутарка. У часе аўдыенцыі было зроблена цэлы рад сунольных фотаздымкаў. Пасьля аўдыенцыі сэнатар Джэвітс запрасіў быў Беларускую Дэлегацыю на абед, у часе якога ён бліжэй пазнаёміўся з нацыянальнымі праблемамі й дзейнасьцяй беларускай эміграцыі ў Амэрыцы.

скай Эміграцыі з нагоды ўгодкаў 25 Сакавіка.

## САКАВІКОВАЯ АКАДЭМІЯ У НЬЮ ЁРКУ

Урачыстая Акадэмія з нагоды ўгодкаў Беларускай Незалежнасьці адбылася ў залі гатэлю „Білтмор" у Нью Ёрку ў нядзелю 21 сакавіка. Акадэмію зладзілі супольна Галоўная Управа БАЗА, Управа БАЗА Акругі Нью Ёрк і Управа БАЗА Аддзелу ў Нью Джэрзі.

Перад Акадэміяй а 10-ай гадзіне раніцы ў катэдральным саборы БАПЦарквы імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася ўрачыстая Абедня й Малебен, адслужаныя Уладыкам Васілём у суслужэньні а. Р. Абрамскага. Падчас Службы Уладыка Васіль сказаў глыбока патрыятычнае казаньне.

Акадэмія пачалася а 3-яй гадзіне папаўдні амэрыканскім нацыянальным гімнам, выкананым солё сп-няй Лізай Маркоўскай пад акампаніямэнт на фартапіяне праф. Э. Зубковіч.

Акадэмію адкрыў старшыня Галоўнай Управы БАЗА д-р Ст. Станкевіч, які сказаў даўжэйшую прамову ў англельскай і беларускай мове.

Пасьля гэтага д-р Ст. Станкевіч прадставіў прысутным кангрэсмэна з Дэмакратычнай партыі ад штату Нью Джэрзі Паўла Дж. Крэбса.

На трыбуну ўзыйшоў кангрэсмэн Крэбс. У сваёй гарачай прамове ён выказаў шчырую сымпатыю да Беларусаў і добрае веданьне беларускай нацыянальна-вызвольнай справы. Ён паінфармаваў, што паходзіць з работніцкага асяродзьдзя, увесь час быў актыўным у работніцкім руху Амэрыкі ды быў адным із закладнікаў работніцкіх прафсаюзаў у Амэрыцы. Ён адцеміў, што ў Устаўных Граматах Рады Беларускай Народнай Рэспублікі былі ўжо замацаваныя грамадзянскія правы й вольнасьці, за якія ён у тым-жа 1918 годзе змагаўся для амэрыканскіх работнікаў. „Беларускі народ, які быў здольны й дасьпелы ўжо ў 1918 годзе праклямаваць такія дэмакратычныя правы й вольнасьці, не памрэ, а здабудзе сваю незалежнасьць", — закончыў сваю прамову кангрэсмэн Крэбс.

Пасьля гэтага сп. Франк Романо прачытаў Праклямацыю губэрнатара штату Нью Ёрк Нэльсана А. Рокфэлера пра абвешчаньне дня 25 сакавіка сёлета Днём Незалежнасьці Беларусі ў гэтым штаце. Такія-ж праклямацыі былі зачытаныя ад губэрнатара штату Пэнсыльвэніі Вільяма В. Скрэнтона й губэрнатара штату Нью Джэрзі Рычарда Дж. Гюса ды мэра гораду Нью Бранcьвік Чэстара Паўлюса.

Далей выступіў з кароткай прамовай віцэ-прэзыдэнт Рады БНР Антон Адамовіч. Ён перадаў прывітаньне ад Прэзыдэнта Рады БНР Міколы Абрамчыка, які меўся прыехаць у гэты час у Нью Ёрк і асабіста выступіць на Акадэміі. Але неадкладныя справы ў Лізе Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку), у якой прэз. Абрамчык старшыням, затрымалі яго ў Парыжы. Сп. Адамовіч прачытаў Зварот Прэзыдэнта Абрамчыка да Беларускай Эміграцыі з нагоды ўгодкаў 25 Сакавіка.

У далейшым ходзе праграмы Акадэміі быў праслуханы цікавы даклад інж. Мікалая Гарошкі, у якім былі глыбака закранутыя гістарычныя й палітычныя аспэкты беларускага незалежніцкага руху.

Пасьля гэтага выступалі з прывітальнымі прамовамі прадстаўнікі нацыянальных цэнтраў паняволеных бальшавізмам народаў. Першым узяў слова праф. І. Палівода ад імя Украінскай Нацыянальнай Рады й асабіста ад Прэзыдэнта УНРады Сьцяпана Вытвіцкага. Тады прамаўлялі сп. Алексіс Чэнкэлі — ад Грузінскага Задзіночаньня ў Амэрыцы, д-р Бэрды Мурат — ад Туркестанскага Нацыянальнага Цэнтру й Туркестанска-Амэрыканскага Задзіночаньня, сп. Сідар Гашонія — старшыня Амэрыканскай Рады Незалежнасьці Грузіі й прадстаўнік польскага грамадзтва ў Нью Ёрку праф. д-р Гэнрык Лівач.

Былі зачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад сэнатараў ЗША: старшыні Сэнацкай Камісіі Замежных Справаў сэнатара Вільяма Фульбрайта із штату Арканзас, сэнатара Якуба Джэвітса із штату Нью Ёрк, сэнатара Эвэрэст Дырксэна — із штату Ілінойс, сэнатара Гарысона Вільямса — із штату Нью Джэрзі, сэнатара Паўла Доўгляса — із штату Ілінойс, сэнатара Робэрта Кэнэды — із штату Нью Ёрк, сэнатара Джона Вільямса — ія штату Дэлевэр і сэнатара Кліфорда Кэйз — із штату Нью Джэрзі, сэнатара Джорджа Мурфі із штату Каліфорнія.

Пісьмовыя прывітаньні прыслалі наступныя кангрэсмэны: Эдвард Патэн із штату Нью Джэрзі, Джон Дынгель — зь Мічыган, Гэнрык Гэльстоскі — зь Нью Джэрзі, Тадэуш Дульскі — зь Нью Ёрку, Джэмс Рузвэльт — зь Каліфорніі, Самуэль Фрыдль — зь Мэрылэнд, Чарлс Матыяс — з Мэрылэнд. Пётр Родыно — зь Нью Джэрзі, Клемэнт Заблоцкі — зь Вісконсін, Джон Руні — зь Нью Ёрку, Франк Гортон — зь Нью Ёрку, Карнэліюс Галягэр — зь Нью Джэрзі, Вільям Відналь — зь Нью Джэрзі, Джозэп Мініш — зь Нью Джэрзі, Франк Томпсон — зь Нью Джэрзі, Чарлс Джэльсон — зь Нью Джэрзі, Флёрэнс Двайр — зь Нью Джэрзі, Джэмс Говард — зь Нью Джэрзі, Пётр Фрэлінгаўзэр — зь Нью Джэрзі, Джон Ліндзы — зь Нью Ёрку, Вільям Рэен — зь Нью Ёрку, Эдна Кэлі — зь Нью Ёрку, Эдвард Дэрвінскі — зь Ілінойс, Боб Вільсон — з Каліфорніі, Абрагам Мальтэр — зь Нью Ёрку. Пісьмовыя прывітаньні прыслалі губэрнатар штату Нью Джэрзі Дж. Гюс і мэр гораду Нью Бранcьвік Чэстэр Паўлюс.

Былі яшчэ зачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы ад сп. Васіля Джэрмэні — старшыні Асамблеі Паняволеных Народаў Эўропы, Задзіночаньня Амэрыканскіх Харватаў, Казацкага Вярхоўнага Прадстаўніцтва, Згуртаваньня Беларускай Моладзі Амэрыкі, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Мічыган, Задзіночаньня Беларусаў штату Ілінойс, Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднанага Камітэту ў Клівлэнд, Задзіночаньня Беларусаў Вялікабрытаніі, Аддзелу ў Брадфорд.

Пад канец была прынятая праз акламацыі Рэзалюцыя. Гэтая Рэзалюцыя была 25 сакавіка зачытаная сэнатарам Якубам Джэвітсам на сэсіі Сэнату й надрукаваньня ў Кангрэсавым Рэкордзе. У Палаце Рэпрэзэнтантаў Рэзалюцыю зачытаў 25 сакавіка кангрэсмэн Паўль Крэбс, а 26 сакавіка — кангрэсмэн Джон Дынгель, і кажны зь іх зьмясьціў яе таксама ў Кангрэсавым Рэкордзе. Такім парадкам нашая Рэзалюцыя была надрукаваная ў Кангрэсавым Рэкордзе аж тры разы.

Напрошку былі прынятыя тэксты прывітальных тэлеграмаў Прэзыдэнту ЗША Ліндану Б. Джансану, Віцэ-Прэзыдэнту Губэрту Г. Гамфры, Прэзыдэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку, сэнатарам, кангрэсмэнам, губэрнатарам і мэрам, якія прывіталі нас з угодкамі 25 Сакавіка або якія наагул тым ці іншым спосабам праявілі прыхільнасьць і спачуваньні Беларускаму Народу.

Акадэмію закрыў д-р Ст. Станкевіч, падзякаваўшы прысутным і ўсім тым асобам, што дапамаглі ў зладжаньні й правядзеньні сьвяткаваньня. Урачыстасьць закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Адразу пасьля Акадэміі там-жа адбыўся таварыскі Кактэйль, у часе якога Беларусы мелі добрую нагоду замацаваць свае дачыненьні з прадстаўнікамі іншанацыянальных арганізацыяў.

### МАСТАЦКІЯ ВЫСТУПЛЕНЬНІ

Прамовы й даклады падчас Акадэміі былі ўдала пераплятаныя мастацкімі выступленьнямі. Гэтак ведамая беларуская сьпявачка Ліза Маркоўская прапяяла тры беларускія песьні: „Я прыйду" — на словы Янкі Купалы, музыка камп. М. Куліковіча, „Вясновы кліч" — на словы Натальлі Арсеньневай, музыка праф. Э. Зубковіч, „У садочку" — на словы Вінцука Дунін-Марцінкевіча, кампазыцыі Туранкова.

У іншым месцы Акадэміі ведамая й здольная беларуская сьпявачка Кляўдыя Яранэвіч прапяяла: „Матыната" паітальянску, музыка Леонкавалла, „Я іду дарогай" — на словы М. Клішэвіча, музыка М. Куліковіча, „Там каля млына" — народная песьня, музыка Грэчанінава, „Калыханка" — на словы Натальлі Арсеньневай, музыка прафэсара Э. Зубковіч. Да ўсіх песьняў акампаніявала праф. Э. Зубковіч.

Жывыя й захапляючыя былі двухразовыя выступленьні Танцавальнага Гуртка Згуртаваньня Беларускай Моладзі Амэрыкі пад кіраўніцтвам сп-ні Алы Орса-Романо. Былі выкананыя тры беларускія народныя танцы: „Таўкачыкі", „Крыжачок" і „Мікіта".

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

BIELARUS
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
Address in U.S.A.: 166 — 34 Gothic Drive, Jamaica, N. Y. 11432.
Address in Canada: Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 4.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. **Рэдагуе Калегія.**
**Выдаюць:** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртаваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 4 дал. на год.


# ПАСТАНОВА

**Беларускага Сходу ў Нью Ёрку 21 сакавіка 1965 году, прысьвечанага 47-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі**

Беларусы ў краёх Захаду ўважліва сочаць жыцьцё на Бацькаўшчыне ды імкнуцца ўсімі даступнымі шляхамі трымаць лучнасьць із сваім народам. Падзеі на Бацькаўшчыне сьветчаць, што ў вялікай стваральнай працы Беларускі народ намагаецца палепшыць сваю цяперашчыну, здабыць ды замацаваць лепшую будучыню. У гэтым сваім намаганьні ён мае бязумоўныя дасягненьні, аднак, і дагэтуль нязьмерныя перашкоды й хвальшывыя прынцыпы, сіламоц накінутыя народу, скоўваюць беларускае нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва.

Ды ідэя дэмакратычнае свабоды й незалежнасьці, асьвячаная ахвярамі жыцьця, — у Беларускім народзе няўмірушчая, нязьнішчальная. Узьнятая Паўстаньнем 1863 году, узбагачаная й паглыбленая грамадой пісьменьнікаў - адраджэнцаў ды рэалізаваная Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыяй 1917-1918 гадоў, ідэя гэтая наўхільна прастуе да свайго поўнага й канчальнага завяршэньня. Яна становіць арганічную частку гістарычнага працэсу дваццатага стагодзьдзя.

Дэвіз сучаснае эпохі — дэмакратычная сувэрэннасьць. Беларусы выказалі гэты дэвіз яшчэ словамі Янкі Купалы: „Кожны народ сам сабе пан". Поўным гаспадаром у сябе, раней ці пазьней, мусіць стацца й Беларускі народ. Гэта ягонае найболыш запаветнае лятуценьне й імкненьне. Дасягненьне гэтае мэты ляжыць ня толькі ў ягоных собскіх інтарэсах, але й у інтарэсах міжнародных.

Нашыя часы, часы атомнае зброі, адзначаюцца пякучай патрэбаю міжнароднага супрацоўніцтва. Аб гэтым красамоўна сьветчыць факт існаваньня Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Але міжнароднае суіснаваньне й супрацоўніцтва абапрэцца на здаровых падвалінах адно тады, калі кажны народ будзе гаварыць сам за сябе, калі суседняя дзяржава ці нацыянальнасьць ня будзе спэкуляваць чужым імём і чужымі эканамічнымі рэсурсамі, як гэта ёсьць у выпадку Беларусі, імя якое Масква выкарыстоўвае ў сваіх міжнародных маніпуляцыях і шантажох.

Дамаганьне Беларусаў — мець права гаварыць самім за сябе, гаспадарыць самым у сябе — становіць існасьць і сэнс сучасных падзеяў на Беларусі. Выяўляецца гэта асабліва навочна ў маладым пакаленьні сучаснае беларускае інтэлігенцыі—у васяродзьдзі пісьменьнікаў, мастакоў, настаўнікаў, студэнцтва. Беларускі народ празь іхныя вусны й творчыя таленты намагаецца вярнуць сабе нацыянальную гордасьць, якое быў ушчэнт пазбаўлены ў гадох сталінскага тэрору, вярнуць сваю багатую гістарычную спадчыну ды — у дадзеных абставінах — максымум эканамічнае й палітычнае свабоды — што ўсё разам і становіць аснову незалежніцкае, дэмакратычнае ідэі, увасобленае ў ідэяле Беларускае Народнае Рэспублікі.

Таму мы, удзельнікі гэтага ўрачыстага абходу 47-ых угодкаў абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, пастанаўляем:

1. Нясупынна весьці далей намаганьні, каб у цягу нашага далейшага ўсемагчымага й неаслабнага змаганьня за Вольную й Незалежную Беларусь паказваць дасягненьні Беларускага народу ў справе разбудовы свае культуры й здабыцьця нацыянальна-дзяржаўнае незалежнасьці;

2. Выкрываць і паказваць сьвету на палітычнае, эканамічнае й духовае паняволеньне Беларусі савецка-расейскім імпэрыялізмам.

Нязгасны сьветач Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанае векапомным Актам 25 сакавіка 1918 году!

Няхай жыве вольная, незалежная дэмакратычная Беларусь!

Нью Ёрк, 21 сакавіка 1965 г.

# САКАВІКОВАЯ АКАДЭМІЯ У НЬЮ ЁРКУ

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Былі й дзьве дэклямацыі нашых наймалодшых — вучняў беларускіх сыботніх школаў: Ніны Запруднік зь Нью Ёрку, якая прадэклямавала верш Янкі Купалы „Не пагаснуць зоркі ў небе", і Тамары Стагановіч зь Нью Брансьвіку, што прадэклямавала верш Якуба Коласа „О край родны".

Не зважаючы на тое, што ў гэтых самых гадзінах ладзілася ў Нью Ёрку сакавіковая акадэмія Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, на Акадэміі, ладжанай БАЗА, было даволі шмат народу. Прыемна адзначыць, што хоць Акадэмія цягнулася роўна тры гадзіны, на залі панаваў спакой, напружаная ўвага й урачыстая атмасфэра. Зьйшліся й прыехалі на Акадэмію ня толькі із самога Нью Ёрку й Нью Брансьвіку, але таксама з бліжэйшых і далейшых аколіцаў, а навет зь іншых штатаў, як Канэктыкат, Масачусэтс, Пэнсыльванія й інш.

# ВЫСТУПЛЕНЬНІ СЭНАТАРАЎ І КАНГРЭСМЭНАЎ

Галоўная Управа БАЗА загадзя была зьвярнулася да цэлага раду сяброў Амэрыканскага Кангрэсу — сэнатараў і кангрэсмэнаў, ведамых із сваёй прыхільнасьці да справы паняволеных народаў, у васаблівасьці Беларускага Народу, з просьбаю, каб яны выступілі із адмысловымі прамовамі на ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў вабедзьвюх палатах Кангрэсу ды надрукавалі іх у „Кангрэсавым Рэкордзе" (Дзёньніку). Адначасна былі ім разасланыя патрэбныя дзеля гэтага інфармацыйна - гістарычныя матарыялы.

Вынік гэтага сёлета быў надзвычайны. Калі ў 1963 годзе з нагоды сакавіковых угодкаў было ў вабедзьвюх палатах Кангрэсу 12 прамоваў, а ў 1964 годзе — 24 прамовы, то сёлета было іх аж 38: 6 у Сэнаце й 32 у Палаце Рэпрэзэнтантаў. Яны былі сказаныя між 22 сакавіком і 1-ым красавіком але найболыш іх было ў дзень 25 сакавіка — аж 27 прамоваў. Тэксты ўсіх гэтых прамоваў, у бальшыні поўнасьцяй, а некаторыя з малымі скарачэньнямі друкуем у ангельскім арыгінале ў гэтым нумары нашай газэты паводля „Кангрэсавага Рэкорду".

Апрача гэтага, прынятая на ўрачыстай Акадэміі ў Нью Ёрку з нагоды ўгодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Рэзалюцыя была ў гэты-ж дзень прачытаная ў Сэнаце сэнатарам Якубам Джэвітсам і двойчы ў Палаце Рэпрэзэнтантаў кагрэсмэнам Паўлам Крэбсам і кангрэсмэнам Джонам Дынгелям. Таксама і ў „Кангрэсавым Рэкордзе" Рэзалюцыя гэтая была надрукаваная аж тры разы.

Гэткім парадкам, сэсіі ў вабедзьвюх палатах Кангрэсу ў дзень 25 сакавіка сёлета фактычна выліліся ў магутную маніфэстацыю прыязьні да Беларускага Народу й сталіся зычлівым актам маральнага й палітычнага падрыманьня ягоных нацыянальна-вызвольных імкненьняў.

# ВЕРЫМ У НАШ НАРОД

**(Скарочаны тэкст прамовы д-ра Ст. Станкевіча на Акадэміі ў 47-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка, ладжанай 21 сакавіка 1965 г. у Нью Ёрку)**

Сяньняшнія ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі даюць добрую нагоду коратка зірнуць на тыя шляхі, што прывялі да векапомнага Сакавіковага Акту. Яны даюць таксама нагоду адзначыць і далейшыя шляхі нашага нацыянальна - вызвольнага змаганьня, што разгортвалася й разгортваецца на аснове ідэяў, на якіх быў пабудаваны Акт 25 Сакавіка.

Найвялікшай гістарычнай трагэдыяй Беларускага народу быў ягоны адрыў ад традыцыяў нашага незалежнага йснаваньня ў эпоху задзіночанага беларускага гаспадарства — Вялікага Княства Літоўскага, калі беларускі народ тварыў наймагутнейшую палітычную, мілітарную й культурную сілу на ўсходзе Эўропы. Гэта была эпоха, аб якой Янка Купала пісаў:

Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,  
Слава далёка за мора ішла.  
Ворага кожны за плечы браў сьмела,  
Цемра чужынцаў ня страшнай была.

Панам быў дома і слаўным за домам  
Мой патаптаны сягоньня народ;  
Змог ён ня толькі знаць штукі з заломам, —  
Роднаму слову ўмеў кніжны даць ход.

Працэс адрыву ад нацыянальных традыцыяў мінуўшчыны поўнасьцяй завяршыўся пасьля таго, калі ў канцы XVIII стг. Беларусь апынулася ў складзе Расейскай імпэрыі. Царскі ўрад паставіў быў сабе за мэту поўнасьцяй зрусыфікаваць Беларусь. Але зрусыфікаваць пры дапамозе адно царскай Расеі ўласьцівых мерапрыёмстваў, як цемра, усеагульная адсталасьць і матарыяльная галіта. У выніку гэтага, паводля статыстыкі 1897 году, звыш 77% жыхарства Беларусі было няпісьменным, у Беларусі не асталося аніводнай вышэйшай навучальнай установы, была забароненая беларуская мова ў публічным жыцьці й у друку. Аб эканамічнай адсталасьці краю можа найлепей светчыць факт, што бадай адзінай тыповай індустрыяй у Беларусі была кузьня, млын ды бровар.

Гэтымі нялюдзкімі мераврыёмствамі царскі ўрад дасягнуў свайго: ужо ў XIX стг. беларускі народ ня толькі забыўся аб сваёй нацыянальнай велічы й славе ў мінуўшчыні, але й наагул стаўся нацыянальна нясьведамай этнаграфічнай масай.

І калі ў тым-жа XIX стг. паволі пачынаецца нацыянальна-культурнае адраджэньне, дык яно не магло ўжо жывіцца жыватворнымі сокамі слаўнай мінуўшчыны народу. Навет старая беларуская літаратурная мова, дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага была поўнасьцяй забытая. Такім парадкам, беларускае нацыянальнае адраджэньне, замiж разьвівацца на базе нацыянальнай спадчыны мінуўшчыны, было змушанае тварыць усе свае нацыянальныя каштоўнасьці ад самага пачатку. Таму працэс гэтага адраджэньня на працягу ўсяго XIX і пачатку XX стг. быў вельмі павольны, звужаны й няпоўны.

Але вось прыходзіць слаўная нашаніўская пара. Трывала яна ўсяго дзевяць год, але паводля свайго зьместу й значаньня яна роўная цэлай эпосе. Нашаніўскае адраджэнства, што выдала такіх волатаў беларускага мастацкага слова, як Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч, дастаткова паказала, што народ не памёр, што ён захаваў у сабе вялікія й нязьнішчальныя духовыя сілы. На працягу Першае Сусьветнае вайны, асабліва ў ейнай канчатковай фазе нацыянальна-адраджэнскія ідэі ўжо нагэтульні ўзмоцніліся й сканкрэтызаваліся, што й прывялі да Акту 25 сакавіка 1918 году.

Акт 25 Сакавіка ня быў нямецкай інтрыгай, як цьвердзіць яшчэ й сяньня бальшавіцкая прапаганда. Ён таксама ня быў справай адно жменькі энтузіястычных інтэлігентаў, як цьвердзяць іншыя няпрыяцелі беларускае незалежнасьці. Наадварот, Акт 25 Сакавіка быў свабодным выяўленьнем волі й імкненьняў Беларускага народу. Незалежнасьць Беларусі была абвешчаная Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, якую паклікаў скліканы на дэмакратычных асновах у канцы 1917 году Першы Усебеларускі Кангрэс і якой перадаў усе свае паўнамоцтвы. Вось у гэтым ідэйная й палітычная сіла Сакавіковага Акту.

Не зважаючы на тое, што пастановы Акту 25 Сакавіка не маглі быць ужыцьцёўленыя, ягоныя ідэі будуць у далейшым ходзе гісторыі заплодніваць і ажыўляць усе беларускія нацыянальныя працэсы. У згодзе з гэтымі ідэямі разгарнулася ў дваццатых гадох нязвычайна шырокая нацыянальная дзейнасьць у падсавецкай Беларусі. Але гэтая дзейнасьць у пачатку трыццатых гадоў была раптоўна спыненая жахлівым сталінскім тэрорам. На працягу ўсіх трыццатых гадоў была фізычна зьнішчаная або ізаляваная ня толькі амаль уся нацыянальная інтэлігенцыя, але й наагул увесь нацыянальны актыў. З усіх дзялянак народнага жыцьця быў выхалашчаны ўвесь нацыянальны зьмест. З нацыянальных азнакаў народу была адно часткова й адно дзеля прапагандава-паказных мэтаў дапушчаная зрусыфікаваная й далей русыфікаваная беларуская мова. Здавалася, што чаго ня здолеў даканаць царскі ўрад на працягу звыш аднаго стагодзьдзя, Сталін даканаў на працягу ўсяго ад-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

PROCLAMATION

State of New York
Executive Chamber

In 1917, the first all-Byelorussian Congress convened in Minsk. The assembly was attacked and dispersed by the Red Army. Later, on March 25, 1918, the Council of the Byelorussian Democratic Republic proclaimed independence. Their independence was short-lived.

The people in Byelorussia today are subjected to the same oppression as the other captive nations, looking toward a day when the conqueror's yoke can be thrown off, and with their brothers who live among us, they can breathe the dignifying air of freedom. It is altogether fitting and proper that we extend our sympathetic support.

NOW, THEREFORE, I, Nelson A. Rockefeller, Governor of the State of New York, do hereby proclaim March 25, 1965, as

BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY

in New York State.

G I V E N under my hand and the Privy Seal of the State at the Capitol in the City of Albany this third day of March in the year of our Lord one thousand nine hundred and sixty-five.

BY THE GOVERNOR

Secretary to the Governor

COMMONWEALTH OF PENNSYLVANIA
GOVERNOR'S OFFICE
HARRISBURG

March 8, 1965

GREETINGS:

Byelorussians all over the world celebrate March 25th as a memorial to their homeland, once a land of freedom.

It is appropriate that Pennsylvanians join their fellow citizens of Byelorussian descent in reaffirming the conviction that tyranny cannot long prevail where men love and courageously strive for liberty.

As Americans, we have a special sympathy for freedom-loving people in other lands whose independence has been stifled by despotism.

Therefore, as Governor of the Commonwealth of Pennsylvania, I am pleased to designate March 25, 1965, as BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY in Pennsylvania.

WILLIAM W. SCRANTON
GOVERNOR

# ПРЭЗЫДЭНТ РАДЫ БНР
## ДА БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ
## У ДЗЕНЬ 25 САКАВІКА

**Дарагія Суродзічы!**

Вітаю Вас усіх сардэчна із 47-мі ўгодкамі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Сходзімся мы ў гэты дзень па ўсіх вялікіх і меншых асяродках нашага расьсяленьня ў Вольным Сьвеце ня толькі дзеля таго, каб урачыста ўшанаваць гэтае нашае Вялікае Сьвята, але й дзеля таго, каб задэманстраваць перад сьветам непахісную волю Беларускага народу ў ягоным змаганьні за ўжыцьцяўленьне ідэялаў Акту 25 Сакавіка.

Некаторым здаецца, што нашыя прэтэнсіі разьбягаюцца з рэальнасьцяй; што лёзунгі 25 Сакавіка — гэта заглухаючае рэха голасу пакаленьня 1918 году; што ідэйна-духовае правадырства нашага народу сяньня знаходзіцца ў руках новае паўмільённае беларускае інтэлігенцыі з вышэйшай і сярэдняй асьветай, узброенае зусім новымі ідэямі; што Беларускі народ у масе сваёй за 45 год увайшоў у новыя каляіны жыцьця; што моладзь нашая там із захапленьнем занятая пабудовай новага гаспадарскага ладу; што тысячы ардэнаносцаў, перамогшы ўсе перашкоды пабудовы сацыялізму, прыступаюць цяпер з такім-жа энтузіязмам да пабудовы яшчэ справядлівейшага, яшчэ шчасьлівейшага грамадзка-палітычнага ладу — камунізму. Апрача гэтага, сёй-той, часамі навет з нашых прыяцеляў, дадае: „Якое сяньня значаньне мае ваш эміграцкі голас на форуме так бурлівых міжнародных падзеяў, калі сілы ўзаемадачыненьняў вымяраюцца каафіцыентам сілы зялеза, сілы атамнай зброі...”

А мы вось 47 год няўпынна паўтараем: пераможам!... Ідэялы 25 Сакавіка нязьнішчальныя й вечна жывыя!... Дзе-ж рацыя?... Чыя праўда?... У творах аднаго зь вялікіх францускіх пісьменьнікаў, палітычнага эміграната свайго часу, Шатабрыяна знаходзім на гэта такі адказ: ПАЗНАНЬНЕ ЗАКОНАЎ ПРЫРОДЫ ДАЕ НАМ НАТХНЕНЬНЕ Й ПАЦЯШАЛЬНА ЗАПЭЎНІВАЕ НАС АД СУМЛЕВАЎ.

На пяцімэтровай таўшчыні мурох Колёзэума, гэнай страшнай будыніны рымскіх тыранаў, у вадным месцы значныя адскокі куляў, у іншым — на пядзю глыбіні некалькі гарматніх сьлядоў, а часьцей за ўсё зеленаватыя лапінкі дробненькай, як дзіцячыя валаскі, травінкі. Гэныя апошнія павыгрызалі глыбокія раўчукі, крышаць і нішчаць магутны мур... Колькі разоў кансэрватары старыны выпякалі іх рознымі атрутамі. Нічога, аднак, не памагае. Гэныя кволыя расьлінкі схаваюцца дзесь у глыб шчэлінаў сваімі карэньчыкамі, а па нейкім часе ўзноў паяўляюцца на паверхню, выпіхаючы сабой трухлявы жвір.

Старэнькі Гід-сьвятар зьвяртае ўвагу турыстых на гэныя дзьве зьявы: дзе дзеіла сіла аружжа, і дзе дзеіла й дзеіць **сіла жыцьця.** І ці-ж ня гэты самы закон сілы прыроды. Дарагія Суродзічы, дзеіць і ў жыцьці грамадзка-людзкім, у змаганьні чалавека за захаваньне сябе, як індывідума, як духова-творчай адзінкі, а народу, як калектыву, як нацыі?

Гісторыя людзтва дае нам безьліч довадаў несьмяротнасьці жыцьця народу. Бачым гэта хоць-бы на прыкладзе адраджэньня дзяржавы Ізраэля калі пасьля блізу дзьвюх тысячаў гадоў мрояў і лятуценьняў Жыдоў, будучых у расьцярушаньні па ўсім сьвеце, адрадзілася проста зь нічога іхная дзяржава. Бачым гэта ў нараджэньні каля паўсотні новых дзяржаваў народаў Афрыкі й Азіі...

Беларускі народ на працягу свае тысячагадовае гісторыі ня менш зырка, чымся шмат якія іншыя народы, дэманстраваў свае жыцьцёвыя сілы. 162 гады ён праліваў кроў у франтавой вайне з Маскоўшчынай у вабароне сваіх усходніх дзяржаўных межаў; каля сотні год у вабароне заходніх межаў ад Крыжацка-Тэўтонскага наступу... Збройнае паўстаньне пасьля страты свае дзяржаўнае незалежнасьці супраць маскоўскае навалы ў 1830 годзе... Паўстаньне Кастуся Каліноўскага, што прыняло формы васьмігадовае партызанскае вайны... Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе і двухгадовае збройнае змаганьне БНР з бальшавіцкімі захопнікамі... А далей 45-цігадовае, навонкі глухое, але крывавае змаганьне за захаваньне сябе, як нацыі.

Дарма бальшавікі намагаюцца заглушыць стогны Беларускага народу ды прадставіць яго сьвету, як ударнага бальшавіцкага ардэнаносца, ды пераканаць нас аб бязьмернай вернасьці Беларускага народу Камуністычнай партыі й удзячнасьці „вялікаму рускаму народу” за ягоную дапамогу ў дасягненьні нябывалага дагэтуль гаспадарскага й культурнага росквіту Беларусі. Паказваюць нам на вышкі саляных шахтаў, на адкрытыя падземныя багацьці Беларусі: фантаны беларускай нафты, залежы вугалю, зялезнае руды... Беларускі народ, адылі, добра ведае й добра памятае, як у 1929-33 гадох выдатнейшыя беларускія вучоныя — эканамістыя й архэалёгі былі засуджаныя й фізычна зьнішчаныя якраз за тое, што настойліва дамагаліся раскопаў і эксплёатацыі гэтых самых багацьцяў і на гэтых самых, імі тады паказваных, месцах. Іх тады абвінавацілі за „шкодны сацыялізму” беларускі нацыянал - гаспадарскі шавінізм.

Беларускі народ, як і мы ўсе тут цешымся, што паклёпы аб беднасьці беларускае зямлі, якія зьяўляліся доўгімі гадамі „наймацнейшым” аргумэнтам прапаганды супраць ідэі беларускай дзяржаўнай незалежнасьці — **разьбітыя.** Мы цешымся з усякіх дасягненьняў Беларускага народу, але мы ведаем, якой цаной, якімі ахвярамі гэныя дасягненьні вырываліся зь хіжацкіх лапаў акупанта.

Вылічыць усе гэныя ахвяры Беларускага народу мы сяньня ня ў змозе, бо іх мілёны. Але само самагубства нашага найвялікшага гэнія, прарока нашага нацыянальнага адраджэньня Янкі Купалы ў пратэст супраць насільля й зьдзеку акупанта над беларускай нацыянальнай культурай, над Беларускім народам, гаворыць само за сябе. Ня меншую вымову меў таксама пратэст-самагубства Ўсевалада Ігнатоўскага, вялікага нашага дэмакрата-народніка. Да гэтага трэба дадаць нядаўнае дэманстрацыйнае на вачох Французаў самагубства маладога пісьменьніка Усевалада Краўчанкі ды вымушанае нарэшце прызнаньне самых бальшавікоў, што ў нетрах іхнае імпэрыі дзясяткамі гадоў бязкарна лютаваў нейкі зьвярыны „культ”...

Ужо адны толькі гэтыя, ведамыя ўсяму сьвету факты ўпаўнамочваюць нас цьвердзіць, што наш голас у Вольным Сьвеце не разыходзіцца з рэальнасьцяй, што ідэялы 25 Сакавіка — гэта не заглухаючае рэха нашага пакаленьня 1918 году, а рэха яшчэ больш узмоцненае стогнамі Беларускага народу ў ягоным парыве да волі з тых шчэлінаў муру маскоўскае тыраніі.

Эміграцыя, як сацыялягічная зьява наагул, гэтак-жа старая, як старыя ў сьвеце нацыі. Палітычная эміграцыя, калі яна сябе такой захоўвала, незалежна ад сваёй лічбовай колькасьці, была заўсёды неаддзельнай часткай свайго народу, а ейная роля ў нацыянальна-палітычным і культурным жыцьці народу была часамі ня толькі ўспамагальнай, а й правадырскай, у залежнасьці ад творчага дынамізму гэнае эміграцыі з аднаго боку, а з другога — ад сытуацыі ейнага народу на бацькаўшчыне. Прыкладам, польскі эмігрант Падарэўскі, чэскай Масарык, францускай Дэ Голь. Ім ня толькі ўдалося ўтрымаць у сваіх руках правадырства ў часе вызвольнага змаганьня з акупантамі, але й ачоліць потым свае вызваленыя народы. У культурна-творчым кірунку варта асабліва падчыркнуць ролю двух эмігрантаў: Віктара Гюго й Адама Міцкевіча. Створаныя Віктарам Гюго шэдэўры францускае літаратуры („Легэнда вякоў”, „Мізэрныя”) прыпадаюць якраз на час экзылю ягонага. Шэдэўр польскай літаратуры „Пан Тадэуш” А. Міцкевіча нарадзіўся на парыскім бруку. Беларуская палітычная эміграцыя мае бліскучыя прыклады свае станоўкасьці ў васобах найстарэйшага нашага эміграанта Вітаўта Вялікага, а пазьней — Пётры Крэчэўскага й Васіля Захаркі.

Сучасная нашая эміграцыя зьяўляецца асабліва страшным ворагам для нашых акупантаў тым, што бальшавізм-камунізм пасьля 45-цігадовай практыкі дайшоў да поўнага ідэйнага банкроцтва, пераставіўшыся на рэйкі чыста расейскага старога імпэрыялізму, і тым самым увайшоў у фазу гістарычнага працэсу раскладу.

Таму беларуская эміграцыя, як і шмат якія эміграцыі іншых паняволеных Масквою народаў, асабліва непакоіць Крэмль. Не дарма таму нам прысьвячаюць бальшавікі аж гэтулькі ўвагі. Раз яны нас бэсьцяць, як найгоршых злачынцаў, іншы раз запэўніваюць, што амністыяй нам усё даравана, абы толькі вярнуліся дамоў.

У свой час амнэставаны Напалеонам 3-ім Віктар Гюго быў запрашаны вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну. На гэта вялікі францускі пісьменьнік адказаў: „— астануся далей ізь сьцягам свабоды тут, пакуль у маёй бацькаўшчыне пануе тыранія. Калі нас астанецца тысяча, я буду адзін із тысячы. Застанецца сотня, я буду сотым. Дзесяць, буду дзясятым. Астануся адзін — трымаць буду сьцяг да канца перамогі над тыраніяй...

Дарагія Суродзічы Я моцна перакананы, што нікому з нас не давядзецца далей несьці нашага сьцягу свабоды, сьцягу БНР камусьці аднаму, і ня дзесятцы, і ня сотні, а ў тысячах дружных і моцных рук ён будзе датрыманы й данесены да тых рук і перададзены ў тыя рукі, зь якіх ён быў атрыманы.

Жадаю Вам усім здароўя, сілы, вытрываласьці!
Жыве Беларускі Народ у змаганьні!
Жыве Беларусь!

**Мікола Абрамчык**
**Прэзыдэнт Рады БНР**
Парыж, 25 сакавіка 1965 г.



**Зьлева направа: Сэнатар Якуб К. Джэвітс, Віцэ-Старшыня Галоўнай Увравы БАЗА Міхась Тулейка, Сэнатар Эвэрэт М. Дырксэн, Уладыка Васіль, Віцэ-Прэзыдэнт ЗША Губэрт, Г. Гамфры, Д-р Барыс Кіт, Сэнатар Майк Мансфілд і сябра Галоўнай Управы БАЗА Пранціш Бартуль на аўдыенцыі ў Віцэ-Прэзыдэнта ЗША**

# ПЁТР КРЭЧЭЎСКІ
## І ФУНДАЦЫЯ ЯГОНАГА ІМЯ

У Нью Ёрку існуе Фундацыя ймя Пётры Крэчэўскага. У канцы леташняга году Фундацыя гэтая набыла два сумежныя дамы, вартасьцяй у сто восемдзесят тысячаў даляраў. У вадным з памешканьняў гэтых дамоў месьціцца цяпер сядзіба Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня — арганізацыі, што займаецца культурна-грамадзкай працай. У плян дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ўваходзяць літаратурна - навуковыя вечары, якія адбываюцца цяпер, узімку, штосыботы.

У сыботу 13-га лютага сёлета адбыўся чародны гэткі вечар. На ім інжынер Мікола Гарошка, старшыня фундацыі ймя Пётры Крэчэўскага, падзяліўся сваймі ўспамінамі аб Пётру Крэчэўскім.

Інжынер Гарошка вучыўся ў дваццатых гадох у Празе. У тых часох, як ведама, Чэхаславаччына прызнавала ўрад не БССР, а Беларускае Народнае Рэспублікі. У Празе тады праводзіў сваю дзейнасьць і Прэзыдэнт Беларускае Народнае Рэспублікі Пётра Крэчэўскі.

Інжынер Гарошка, як і шмат Праскіх студэнтаў-Беларусаў таго часу, знаў Пётру Крэчэўскага асабіста. Крэчэўскі — кажа ён — быў чалавекам бязьмежна адданым справе свабоды беларускага народу, вялікім ідэалістым і энтузіястам нацыянальнае справы.

Нарадзіўся Крэчэўскі ў 1879 годзе на Кобрыншчыне на Палесьсі. Вучыўся ў Віленскай Духоўнай сэмінарыі, але сьвятаром ня стаўся. У гадох вайны й рэвалюцыі Крэчэўскі быў актыўным удзельнікам беларускага нацыянальна - адраджэнскага руху, браў удзел у Ўсебеларускім Кангрэсе 1917 году, а пасьля — ў падзеях, зьвязаных з абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году. Пётра Крэчэўскі быў абраны на Старшыню Рады Беларускае Народнае Рэспублікі яшчэ ў Менску ў 1919 годзе ды стаўся першым старшынём гэтае Рады за межамі Беларусі, спачатку ў Ліцьве, а пасьля ў Чэхаславаччыне. Памёр ён у Празе ў сакавіку 1928 году.

Прадстаўнікі савецкае Беларусі намаўлялі Крэчэўскага зрачыся мандату Старшыні Рады БНР ды перабрацца ў Менск. У 1925 годзе ў Бэрліне дэлегаты беларускага савецкага ўраду правялі навет канфэрэнцыю ў гэтай справе зь некаторымі сябрамі Рады БНР. Старшыня БНР Крэчэўскі на канфэрэнцыю, аднак не паехаў і мандату ня здаў. Крэчэўскі затое паклаў шмат высілку, каб вывесьці беларускую вызвольную справу на міжнародны форум. Ён часта падарожнічаў па сталіцах цэнтральна-эўрапейскіх дзяржаваў, меў шырокія кантакты ў дыпляматычным сьвеце.

У васабістых дачыненьнях — казаў інжынер Гарошка—Пётра Крэчэўскі быў чалавекам нязвычайна сьціплым, працавітым, глыбокага палітычнага празору й філязофскае думкі.

Адзін з крылатых выславаў Пётры Крэчэўскага датычыцца да ўзначальванае ім Рады Беларускае Народнае Рэспублікі: „Мы заўсёды з народам, заўсёды за народ, і зь ніякай дыктатурай супраць народу”.

### САКАВІКОВАЯ АКАДЭМІЯ
### Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі

У той самы дзень і гадзіны, што й БАЗА, ладзіў урачыстую Акадэмію з нагоды 47-ых угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі й Беларускі Кангрэсавы Камітэт у залі „Астор” у Нью Ёрку. Нажаль, мы не атрымалі справаздачы з гэтай Акадэміі ані ад ейных арганізатараў, ані ад кагосьці з прысутных на ёй. Таму ня маем магчымасьці напісаць аб ёй у нашай газэце.

Адно можам адзначыць, што сьвятар юрысдыкцыі Грэцкай Праваслаўнай Царквы прат. Мікалай Лапіцкі прачытаў у Палаце Рэпрэзэнтантаў у дзень 25 Сакавіка малітву за волю беларускага й амэрыканскага народаў. Тэкст ягонай малітвы зьмяшчаецца паангельску ў іншым месцы газэты.

### ПАДЗЯКА

**Усім тым беларускім арганізацыям, установам і паасобным грамадзянам, што віталі нас із 47-ымі ўгодкамі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, складаем на гэтым месцы шчырае беларускае дзякуй і запэўніваем, што, як і дагэтуль, будзем цьвёрда й бескампрамісова стаяць на ідэйных і палітычных пазыцыях БНР.**

**Галоўная Управа БАЗА**

# ВЕРЫМ У НАШ НАРОД
(Заканчэньне з 2-ой бач.)

нага дзесяцігодзьдзя. Здавалася, што справа зьліквідаваньня Беларускага народу, як нацыі, ужо завершаная.

Але апошнія гады паказалі нешта зусім адваротнае. Калі пасьля афіцыйнага засуджэньня Сталіна й сталінізму пачаўся ў Савецкім Саюзе паступовы працэс лібэралізацыі палітычнага курсу, пачалі ў Беларускім народзе штораз выразьней і штораз шырэй зазначацца спробы выяўленьня свае нацыянальнай існасьці. Сяньня ў БССР адбываецца працэс рэгабілітаваньня схвальшаванае раней беларускае гісторыі, зрусыфікаванае раней беларускае мовы, выхалашчанае з усякага нацыянальнага зьместу літаратуры й усіх іншых галінаў мастацтва. Вельмі паказальны й пацяшальны факт, што піянерамі гэтага нацыянальнага рэнэсансу сталася якраз маладое пакаленьне паэтаў і пісьменьнікаў, мастакоў навукоўцаў, студэнтаў, настаўнікаў і наагул працаўнікоў усіх галінаў культуры. Гэты працэс сьветчыць аб тым, што нацыянальная патэнцыя беларускага народу нязьнішчальная.

Гэта довад, што Беларускі народ, не зважаючы на цяжкія выпрабаваньні гісторыі, астаўся духова здаровым, жыцьцяздольным і нацыянальна творчым.

Вось чаму мы верым у Беларускі народ. Мы верым у беларускую нацыянальна-вызвольную справу.

